Гродна
№20 (431),
1 лістапада 2015

# Слова Жыцця



www.slowo.grodnensis.by
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

# СВЯТА СЕМ'ЯЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ АДБЫЛОСЯ Ў ЛІДЗЕ



Удзельнікі свята сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі з кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам, арганізатарам сустрэчы

**Цеплыню роднага дома і любоў можна было адчуць 17 кастрычніка ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе, дзе прайшла сустрэча сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі. На сустрэчу з розных бакоў дыяцэзіі прыбыло шмат сужэнстваў разам з дзецьмі.**

**У свяце прынялі ўдзел таксама тыя сем'і, якія ў гэтым годзе адзначаюць юбілей сужэнства, і тыя, якія толькі заключылі сёлета сакраментальны сужэнскі саюз.**

● працяг на с. 4

## Гродзенская дыяцэзія адзначыла літургічны ўспамін св. Яна Паўла II

22 кастрычніка вернікі аддалі пашану святому, таксама ў гэты дзень у парафіяльную святыню ў Макараўцах прыбылі рэліквіі св. Яна Паўла II, а напярэдадні ўрачыстага ўспаміну святога была асвечана капліца св. Яна Паўла II у шпіталі ў Міхалішках.

● працяг на с. 5



Рэліквіі св. Яна Паўла II будуць для вернікаў знакам веры, надзеі і Божай любові

### Каляндар падзей

*2 лістапада*
*успамін усіх памерлых вернікаў. Можна атрымаць поўны адпуст адзін раз у касцёле ці публічнай капліцы.*

*4 лістапада*
*Дыяцэзіяльны дзень малітвы за памерлых святароў.*

*7 лістапада*
*распачацце навэнны Апекі НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, заступніцы дыяцэзіі.*

*9 лістапада*
*гадавіна асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры біскупа Рыма. Молімся за Папу.*

### Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***9 лістапада***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

### Ружанцовыя інтэнцыі:

*Лістапад*

*За чысцовыя душы і развіццё ў парафіях набажэнства за памерлых святароў і вернікаў.*

*Аб стварэнні таварыстваў малітоўнай дапамогі душам чысцовым.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці моліцеся Вы за душы памерлых?***

- *у Дзень задушны*
- *падчас актавы малітвы за памерлых*
- *на працягу ўсяго лістапада*
- *на працягу ўсяго года*
- *я лічу, што мая малітва ім не дапаможа*
- *цяжка сказаць*


Выкажыся

**"Святасць – гэта не прывілей выбраных, а пакліканне для ўсіх" – папа Францішак**




### XXXI НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 12, 28б–34**

Адзін кніжнік падышоў да Езуса і спытаўся ў Яго: "Якая запаведзь першая з усіх?". Езус адказаў: "Першая такая: Слухай, Ізраэль, Пан Бог наш – Пан адзіны; любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, і ўсёй моцаю тваёй. Другая: Любі бліжняга твайго, як самога сябе. Няма іншай запаведзі, большай за гэтыя".

І сказаў Яму кніжнік: "Добра, Настаўнік, Ты праўду сказаў, што ёсць адзін і няма іншага апрача Яго. Любіць Яго ўсім сэрцам і ўсім розумам, і ўсёю душою, і ўсёю моцаю; і любіць бліжняга, як самога сябе – гэта больш за ўсе ахвяры і ўсеспаленні". Езус, убачыўшы, што той разумна адказвае, сказаў яму: "Недалёка ты ад Валадарства Божага". І ніхто ўжо больш не адважваўся пытацца ў Яго.

## ВЕРА АД СЛУХАННЯ

Мы ведаем на памяць змест першай, самай важнай запаведзі. Яна з'яўляецца часткай нашых штодзённых малітваў. Ксяндзы столькі разоў тлумачылі, што любоў да Бога ў першую чаргу ўносіць лад у нашае жыццё. Мы неаднаразова чулі: "Калі Бог на першым месцы, то ўсё на сваім месцы". На жаль, тэорыя не заўсёды адпавядае практыцы, бо выканаць гэтую запаведзь дастаткова цяжка! У той ступені, што рэалізацыя патрабуе ўдзелу не толькі чалавечых магчымасцей. Не беспрычынна мы гаворым аб абавязковасці ў нашым жыцці Божых цнотаў веры, надзеі і любові, як аб здольнасцях, атрыманых з вышынь. Толькі дзякуючы ім запаведзь любові можа знайсці канкрэтнае прымяненне ў нашых паводзінах і праблізіць нас да Божага Валадарства.

Паглыбляючы змест запаведзі любові, нельга забываць пра першы заклік: "Слухай, Ізраэль!" Бог прамаўляе да нас, таму трэба слухаць. Калі мы пачнём адкрываць не толькі нашыя вушы, але і сэрца на Божае слова, тады і змест, і выкананне запаведзі будуць больш даступнымі.

### XXXII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 12, 38–44**

Езус сказаў народу, навучаючы: "Асцерагайцеся кніжнікаў, якія любяць хадзіць у доўгіх шатах, і прывітанні на рынках, і першыя лаўкі ў сінагогах, і першыя месцы на гасцінах. Тыя, хто аб'ядае дамы ўдоў і напаказ доўга моліцца, атрымаюць найцяжэйшы прысуд".

І, сеўшы насупраць скарбонкі, Ён назіраў, як людзі кідалі грошы ў скарбонку. Многія багатыя кідалі памногу. І прыйшла адна бедная ўдава, і ўкінула дзве лепты, што складае чвэрць аса.

Паклікаўшы вучняў сваіх, Езус сказаў ім: "Сапраўды кажу вам, што гэтая бедная ўдава ўкінула больш за ўсіх, хто кідаў у скарбонку. Бо ўсе кідалі, маючы лішак, а яна, будучы ў нястачы сваёй, укінула ўсё, што мела, увесь пажытак свой".

## ЁН АЦЭНЬВАЕ ІНТЭНЦЫІ СЭРЦА

Гэта фрагмент Евангелля, што скланяецца перад людзьмі, якія, не будучы багатымі і не маючы шмат магчымасцей, могуць даверыцца Богу. Якія па прыкладзе беднай удавы з Евангелля збіраюць сабе скарбы, што не марнеюць. Адкуль у Евангеллі бярэцца такая дзіўная ацэнка сцэны каля скарбонкі? Ужо сам стан удаўства ставіў жанчыну ў нявыгаднае становішча ў грамадстве. Яна магла разлічваць толькі сама на сябе. У яе выпадку было б цалкам апраўдана забеспячэнне сабе пражытачнага мінімуму. Тое, што яна зрабіла, магло падацца неразважлівым. Але яе велікадушны жэст быў заўважаны Езусам і заслужыў Яго пахвалы. Яна ўсё сваё існаванне аддала ў рукі Бога. Гэтым самым яна дала Пану Езусу выразны прыклад аўтэнтычнай веры. Той незаўважнай, ціхай, пакорнай, але дзейснай, бо ніводзін рух чалавечага сэрца не застанецца без увагі Таго, хто адважыўся на бязмежны давер чалавеку! Ён прыняў пакуты і нёс крыж, бо паверыў нам, што гэтая мука і гэты крыж прынясуць плён у нашым жыцці! Гэта так, быццам Ён аддаў сэнс сваёй мукі і смерці ў нашыя рукі...

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Мы прамінаем перад абліччам Пана



СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

У многіх ёсць дома каляндар, з якога мы штодзённа зрываем старонкі. Мы робім гэта на працягу ўсяго года, не зважаючы на тое, што ён становіцца ўсё танчэйшым. Кожная старонка – гэта чарговы дзень нашага жыцця. І прыйдзе такі час, калі ў календары нашага зямнога жыцця не застанецца ніводнай старонкі. Гэта будзе час нашай сустрэчы з Хрыстом. Але не толькі ў апошні свой дзень мы можам стаць перад веліччу Бога, мы можам рабіць гэта штодзённа, Бога ж не абмяжоўвае час. Асабліва ў дні малітвы за нашых памерлых мы ўсведамляем, што і нашае жыццё прамінае, што мы павінны больш углядацца ў Неба, каб атрымаць святло на дарогу нашага жыцця.

З кожным днём і з кожным годам Пан "ідзе судзіць зямлю". Ён будзе судзіць паводле праўды, што асвячае нашыя шляхі, па якіх мы не ідзём паасобку, але як Божы люд. Разам з намі заўсёды Хрыстос. Гэтае прыйсцё да Хрыста пачынаецца з моманту святога хросту. Пазней мы сустракаемся з Ім у астатніх святых сакрамантах, у Божым слове, у чалавеку, які патрабуе дапамогі, у цярпенні. Мы сустракаемся з Хрыстом на нашых могілках, дзе Ён паказвае сваю моц над смерцю, адкрываючы для кожнага з нас брамы Неба. Доказам гэтага з'яўляецца наша малітва за памерлых, каб яны дасягнулі неба.

Кожны нас, безумоўна, адчуе ў гэтыя дні могілкі. Як бы дзіўна гэта не прагучала, але ў гэтыя дні яны злучаюць нас больш, чым супольны дах над галавой. На могілках мы становімся бліжэй адзін да аднаго, бліжэй да тых, хто ўжо адышоў з гэтай зямлі. У гэты дзень мы ўшаноўваем не смерць, а жыццё. У кожным з нас ёсць штосьці, што павінна памерці, і штосьці, што памерці не можа. У нас ёсць смяротнае цела і бессмяротная душа. Смерць не мае ўлады над цэлым чалавекам.

На могілках мы вучымся таму, што не варта так зацята трымацца ўласных дарог, бо ўсе выключна зямныя дарогі вядуць да той самай мэты – магілы. Да Айца ў Небе нельга прыйсці ніяк інакш, чым праз Хрыста. Ён – Дарога. І выратаваць сваё жыццё для вечнай хвалы нельга ніяк інакш, чым у Хрысце. Ён – Жыццё. Без Хрыста, урэшце рэшт, мы не зразумеем усёй праўды аб таямніцы смерці. Ён – Праўда.

**У Вялікую пятніцу ў нашых касцёлах па-над усімі знакамі і сімваламі, якія аздабляюць гроб Пана, узвышаецца Найсвяцейшы Сакрамант. Гэта паўната жыцця, надзеі, моцы, памяці смерці Хрыста. Прыходзіць думка, як праз таямніцу сваёй смерці Хрыстос перадае нам таямніцу ўваскрасення і вечнага жыцця. З Яго смерці кожны можа ўзяць надзею ўваскрасення. Менавіта з такой надзеяй мы павінны накіравацца на могілкі, каб знайсці нашых памерлых і сустрэцца з імі, сустракаючыся з Хрыстом.**




*Знешні выгляд святыні*

Паселішча вядома з другой паловы XVII ст. як маёнтак Калвелішкі ў Ашмянскім павеце, які належаў роду Пражмоўскіх і ў склад якога ўваходзілі вёска Калвелішкі і мястэчка Смолінск (пазней Канвалішкі). Смолінскі касцёл адзначаны ў 1738 г. як ужо дзеючы і прыпісаны ў якасці капліцы да беняконскай парафіі. Гэта была пабудаваная ў выглядзе цэнтрычнай, хутчэй за ўсё васьміграннай ратонды святыня. У алтары святыні быў змешчаны абраз св. Ганны. У канцы XIX ст. капліца па невядомых прычынах стаяла зачыненая.

У 1808 г. Мікалай Янкоўскі, канонік мінскай катэдры і тагачасны ўладальнік вёскі, сумесна са сваімі пляменнікамі Амброзіем і Алойзам Янкоўскімі, зафундавалі тут самастойную парафію і касцёл, кансэкраваны пад тытулам св. Мікалая 28 жніўня 1809 г. Дзвюхвежавая святыня была пабудавана з сасны над каменнай крыптай – родавай пахавальняй роду Янкоўскіх. Першымі тут былі пахаваны тры фундатары касцёла – Мікалай Янкоўскі (+1821), Амброзій, маршалак шляхты ашмянскай (+1828) і Алойзы, ветэран польскага войска (+1840). У галоўным алтары было змешчана вялікае разьбянае Укрыжаванне.

Да 1827 г. канвелішскі касцёл абслугоўвалі ксяндзы з віленскага кляштара місіянераў (парафія лічылася місійнай пляцоўкай), а потым толькі дыяцэзіяльныя пробашчы. У XIX ст. парафія ўваходзіла ў склад Вішнеўскага дэканата, у той час да парафіі адносілася капліца ў Стоках (сёння Літва) і дзейнічала місіянерская школка ў саміх Канвелішках. "За польскім часам" парафія ўвайшла ў новаўтвораны Беняконскі дэканат, пры гэтым капліца ў Стоках атрымала статус філіяльнага касцёла. Колькасць вернікаў парафіі тады перавышала 3500 чалавек.

Напрыканцы XIX ст. касцёл у Канвелішках уяўляў сабою дзвюхвежавую святыню ў стылі г.зв. "станіслаўскага класіцызму". Чатыры магутныя круглыя слупы неслі хваліста франтон галоўнага фасада, які фланкавалі дзве двух'ярусныя чацверыковыя вежы пад паўсферычнымі купаламі з васьміграннымі барокавымі глаўкамі. Злева, асобна ад касцёла, стаяла двух'ярусная (меншы чацвярык на большым), таксама драўляная званіца пад чатырохсхільным гонтавым дахам з крыжам. Комплекс быў агароджаны драўляным плотам.

Дзеючы і сёння драўляны неагатычны касцёл у Канвелішках быў пабудаваны на гістарычным месцы (стары касцёл згарэў, крыж ад яго знаходзіцца над безымянай магілай на парафіяльных могілках) у цэнтры вёскі ў 1916 г. і асвечаны пад новым двайным тытулам – у гонар Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і Найчысцейшага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі. Касцёл уяўляе сабой трохнававую святыню з трансептам, які не выходзіць за плоскасць бакавых фасадаў, і пяціграннай апсідай, фланкаванай дзвюма сакрыстыямі. Над галоўным фасадам узвышаюцца тры вежы: большая цэнтральная – крыжастая ў плане двух'ярусная званіца пад востраканечным спічаком, меншыя па баках – чацверыковыя, падобныя на цэнтральную, дэкаратыўныя вежачкі. Накрыты касцёл двухсхільным бляшаным дахам з вальмамі над апсідай і сігнатуркай над імі. Крыпту з трунамі фундатараў было вырашана засыпаць.



*Галоўны алтар*

Інтэр'ер, перакрыты плоскай бэлечнай столлю, падзелены шасцю круглымі калонамі на тры навы, цэнтральная з якіх вышэйшая за бакавыя. У архітраве цэнтральнай навы па перыметры змешчаны карціны на евангельскія сюжэты ў паўкруглых рамах. У касцёле тры алтары: галоўны – у стылі неабарока, з абразом Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў цэнтры і абразом Маці Божай Балеснай у другім ярусе, левы бакавы – прысвечаны св. Ганне, правы бакавы – тытульны, прысвечаны св. Мікалаю, біскупу і мучаніку.

У 1970-я гг. касцёл у Канвелішках быў залічаны да помнікаў архітэктуры неагатычнага стылю, дзейнічаў увесь час бесперапынна.

# Як праявіць любоў да нашых памерлых

***Пачатак лістапада з'яўляецца добрай нагодай для таго, каб прыпыніцца і падумаць аб вечнасці. Да рэфлексіі схіляюць міготкія агеньчыкі свечак і бляск лампад, што запалены на магілах памерлых і нагадваюць нам, наколькі крохкае чалавечае жыццё. Гэта таксама час, калі мы па-асабліваму можам паглыбіць нашу сувязь з нашымі блізкімі, якія адышлі ў вечнасць, ахвяруючы за іх малітвы, учынкі міласэрнасці, адпусты, якія сведчаць аб нашай любові да іх.***

Св. Ян Павел II у разважаннях перад малітвай "Анёл Панскі" сказаў, што малітва за памерлых з'яўляецца важным абавязкам, таму што нават калі яны адышлі ў ласцы і еднасці з Богам, магчыма, ім неабходна яшчэ апошняе ачышчэнне, каб дасягнуць радасці неба".

Хіба, больш за ўсё малітваў да Бога ў інтэнцыі памерлых узносіцца на могілках, калі людзі схіляюцца над магіламі сваіх памерлых блізкіх, асабліва 1 і 2 лістапада. У гэтыя дні могілкі перажываюць сапраўдную "асаду". Аднак часам здараецца, што магілы нашых блізкіх становяцца толькі месцам сустрэч, паказам мод, што замяняюць малітву і роздум. Часта таксама мы спыняемся толькі на знешняй форме: кветках, зніčах, але забываемся аб унутранай падрыхтоўцы, засяроджанні. Бясспрэчна, прыбраць і аздобіць магілы, прыгадаць пэўныя цёплыя хвіліны, праведзеныя разам, важна, але нельга таксама забывацца аб духоўных дарах, якія мы можам ахвяраваць нашым памерлым: аб малітве, стане асвячаючай ласкі, св. Камуніі, прынятай у іх інтэнцыі.

Таксама выразам любові да памерлых з'яўляюцца выпамінкі. Пішучы імёны сваіх блізкіх памерлых на выпамінкавых картках, а затым вычытваючы іх, мы выражаем веру ў тое, што яны запісаны ў Божай кнізе жыцця. Навука Касцёла прыгадвае нам, што паміж намі і памерлымі ёсць духоўная сувязь, і яна заключаецца ва ўзаемным заступніцтве: мы за іх, а калі яны дасягнуць неба, тады будуць асабліва заступацца за нас.

Выпамінкі маюць яшчэ большае значэнне, калі яны звязаны з Эўхарыстыяй. А здзяйсняецца гэта тады, калі ў інтэнцыі памерлых, выпісаных на выпамінкавых картках, адпраўляецца св. Імша. Вельмі важным тады з'яўляецца наш поўны ўдзел у малітве, наша ахвяра і наша намаганне, каб у малітве за памерлых удзельнічаць усім сваім сэрцам, каб у іх інтэнцыі прыняць св. Камунію.

Усе – як тут, на зямлі, так і тыя, хто ўжо перайшоў мяжу смерці – знаходзяцца ў тым самым Касцёле, галавой якога з'яўляецца Хрыстос. Таму мы можам дапамагаць адзін аднаму. І нават смерць не з'яўляецца тут перашкодай. Аб гэтым у энцыкліцы "Spe salvi" казаў таксама Бенедыкт XVI: "На працягу ўсіх стагоддзяў хрысціянства жывіла фундаментальнае перакананне, што любоў можа дайсці ажно на той свет, што магчыма ўзаемнае адорванне, у якім мы спалучаны сувязямі пачуцця па-за межамі смерці". Час паміж 1 і 8 лістапада з'яўляецца асаблівай нагодай для мацнейшага клопату пра нашых блізкіх памерлых. Касцёл у гэты час дае нам магчымасць атрымаць за іх адпуст – "дараванне перад Богам часовай кары за грахі, віна за якія адпушчана".

1–8 лістапада ў нас ёсць выключны шанс для таго, каб нашыя блізкія маглі дасягнуць хвалы Неба. У кожны з гэтых дзён можна здабыць адпуст для адной асобы, пакутуючай у чысцы. Адпуст, які мы можам атрымаць за памерлых, можа быць поўны ці частковы. Поўны адпуст азначае, што нашаму памерламу будуць дараваны ўсе чысцовыя кары, а частковы – што будзе даравана толькі частка чысцовых пакаранняў.

**Поўны адпуст за памерлых мы атрымаем, калі выканаем наступныя ўмовы:**

1. **Трэба хацець, мець інтэнцыю атрымаць адпуст для дадзенай асобы.**
2. **Адбыць сакраментальную споведзь (стан асвячаючай ласкі).**
3. **Прыняць св. Камунію.**
4. **Памаліцца ў інтэнцыях, прапанаваных Папам.**
5. **Выканаць дзеянне, адоранае адпустам – пабожна наведаць могілкі і адначасова памаліцца за памерлых, хаця б у думках, ад 1 да 8 лістапада.**

***Ці выканалі мы ўсе ўмовы атрымання адпусту – пра гэта ведае толькі Бог. Аднак варта памятаць: той, хто на працягу жыцця часта здабывае адпусты для чысцовых душ, хутчэй, чым хто іншы атрымае ў гадзіну смерці ласку поўнага адпусту.***

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*




# Для Бога мы павінны рабіць штосьці большае



***Сёння сваю гісторыю расказвае айцец доктар Андрэй Шчупал з Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля.***

## Дарога да манаскага жыцця

Айцец Андрэй нарадзіўся ў мясцовасці Руды-Рысе ў Тарноўскай дыяцэзіі ў Польшчы ў шчырай рэлігійнай сям'і. У касцёле сваёй роднай мясцовасці быў ахрышчаны, прыступіў да Першай св. Камуніі і прыняў сакрамант канфірмацыі. Таксама ў сваёй роднай парафіі як міністрант упершыню ў жыцці ўдзельнічаў у місіях, якія праводзілі рэдэмптарысты. Гэта быў для яго вялікі духоўны досвед. Таксама клерыкі з гэтай кангрэгацыі падчас канікул прыязджалі дапамагаць у будаўніцтве новага парафіяльнага касцёла. Рашэнне было прынята: рэдэмптарысты!

Пасля заканчэння школы ў 1975 годзе накіраваўся ў Вышэйшую духоўную семінарыю рэдэмптарыстаў у Тухаве. Там адбыў навіцыят, вывучаў філасофію і тэалогію. Там жа 5 чэрвеня 1983 года атрымаў святарскія пасвячэнні.

Спачатку працаваў як місіянер – рэкалекцыяніст. У 1987 годзе быў накіраваны ў Варшаву на дзённае навучанне ў галіне тэалогіі духоўнасці ў Акадэміі каталіцкай тэалогіі (сёння Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага). Праз два гады абараніў выпускную працу і атрымаў дыплом магістра – бакалаўра тэалогіі духоўнасці, у 2001 годзе абараніў доктарскую працу.

## Прыезд у Беларусь

*"Я ўпершыню прыехаў у Беларусь у Гродна ў 1988 годзе па запрашэнні Ксяндза Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча з мэтай прамаўлення адпуставых казанняў у касцёле Маці Божай Анёльскай. Ксёндз Біскуп папрасіў улады маёй кангрэгацыі, каб я на стала застаўся ў Беларусі і дапамог у арганізацыі і функцыянаванні Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, а таксама каб заняўся душпастарскай працай у парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы і парафіі св. Юрыя ў Новай Рудзе каля Гродна".*

Такім чынам айцец Андрэй застаўся тут і заняўся душпастарствам у гэтых парафіях. У Парэччы ён служыў да 2001 года, а ў парафіі ў Новай Рудзе – да сённяшняга дня.

*"Сёння я з хваляваннем успамінаю першы прыезд у Парэчча. Я ехаў цягніком з Гродна. На чыгуначным вакзале мяне чакала амаль уся парафія. Хтосьці з людзей высока трымаў працэсійны крыж, у іншых у руках былі кветкі. Усе спявалі рэлігійныя песні. Мы ўвайшлі ў касцёл, што быў непадалёк, дзе я цэлебраваў св. Імшу і прамовіў першае казанне. На вачах у людзей былі слёзы радасці. Я вельмі палюбіў гэтых людзей, якія так шмат выцерпелі, каб утрымаць гэты ўбогі касцёлік і захаваць веру ў сваіх сэрцах. На працягу ўсяго жыцця я буду памятаць гэтую першую Эўхарыстыю ў Парэччы 29 чэрвеня 1990 года. Я зразумеў, што тут, у Беларусі. Жывуць людзі з вялікім сэрцам і варта прысвяціць для іх сваё жыццё. Беларусь – цудоўная краіна, якую я палюбіў так моцна, як і сваю Бацькаўшчыну, і дзе знаходжуся ўжо на працягу 26-ці гадоў".*

## Навукова-фармацыйная дзейнасць

Акрамя душпастарскай працы айцец Андрэй пачаў дапамагаць у арганізацыі і функцыянаванні Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

*"У семінарыі я правёў першыя рэкалекцыі для алюмнаў, а таксама стаў іх спаведнікам і духоўным кіраўніком. Праводзіў таксама для іх штомесячныя дні засяроджання. Яго Эксцэленцыя Ксёндз Біскуп Тадэвуш Кандрусевіч таксама прызначыў мяне выкладчыкам у гэтай жа семінарыі. Гэтае рашэнне падтрымаў і дадаў мне яшчэ новыя дысцыпліны для лекцый Яго Эксцэленцыя Ксёндз Біскуп Аляксандр Кашкевіч. Такім чынам, спачатку я выкладаў тэадыцэю (3 гады), а затым маральную тэалогію і тэалогію духоўнасці – да сённяшняга дня. Апрача сістэматычных лекцый па дадзеных прадметах я таксама рыхтую дыяканаў да паслугі сакраманту пакаяння і да вядзення духоўнага кіраўніцтва. У 2001 годзе Яго Эксцэленцыя Ксёндз Біскуп Аляксандр Кашкевіч прызначыў мяне духоўным айцом клерыкаў гэтай семінарыі. Гэтую ганаровую функцыю я выконваў на працягу 6-ці гадоў. Можна нават сказаць, што клерыкі сталі маімі духоўнымі сынамі. Я цешуся, што магу ад моманту ўзнікнення семінарыі ў Гродне аж да сённяшняга дня спадарожнічаць ім у фарміраванні іх паклікання да святарства. Сярод іх траіх на сённяшні дзень ужо біскупы".*

У 1992 годзе бп Аляксандр Кашкевіч даручыў айцу Андрэю духоўнае кіраўніцтва сясцёр з Супольнасці Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта ў Гродне, якое ён здзяйсняў больш за 10 гадоў, а таксама на працягу 6-ці гадоў ён быў адказным за духоўную фармацыю манаскіх сясцёр у дыяцэзіі. Акрамя гэтага ксёндз біскуп прызначыў яго дырэктарам Аддзела навучання і каталіцкага выхавання біскупскай курыі ў Гродне, дырэктарам падрыхтоўкі і фармацыі катэхетаў, дырэктарам Катэхетычнага інстытута, галоўным рэдактарам першага навуковага штогодніка ў дыяцэзіі "Studia Theologica Grodnensia", членам Святарскай рады і членам Рады па справах выдавецтва, выкладчыкам у Дыяцэзіяльнай школе сямейнага жыцця, дыяцэзіяльным духоўным айцом святароў.

## Папская адзнака

17 чэрвеня 2015 года айцец Андрэй атрымаў папскую адзнаку – Крыж за заслугі "Pro Ecclesia et Pontifice", прызнаны Святым Айцом Францішкам па просьбе гродзенскага біскупа Аляксандра Кашкевіча як доказ прызнання за вельмі старанную апостальскую працу ў Беларусі. Гэта найвышэйшая адзнака, якой Святы Айцец можа ўзнагародзіць кансэкраваную асобу, якая не прымае тытулаў каноніка ці пралата з-за сваёго манаскага стану.

**"Больш за ўсё я ўдзячны Богу за вялікі дар святарства, рэалізаваны ў Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Святарства – нагода не для нейкага трыумфу, але для глыбокай еднасці з Богам у малітве і для пакорнага служэння людзям, як паказаў Хрыстос, мыючы ногі Апосталам, бо ў святарстве лічыцца толькі святасць. Таму я часта павінен рабіць грунтоўны рахунак сумлення: ці не расчараваў я Бога? Ці не павінен я зрабіць штосьці большае?".апекай Нябеснага Айца. Вы павінны несці ў свет Яго супакой, мір, любоў. Вера – гэта найкаштоўнейшы скарб. Калі Бог будзе на першым месцы, Ён блаславіць ва ўсім і адорыць усімі неабходнымі ласкамі".**

*Ангеліна Пакачайла*

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Пасланне да Габрэяў прадстаўляе Хрыста як найвышэйшага святара, які раздзяляе наш чалавечы стан ва ўсім, акрамя граху: "Бо мы маем не такога першасвятара, які не мог бы спачуваць слабасцям нашым, але такога, які, паводле падабенства, зведаў усе выпрабаванні, акрамя грэху" (4, 15). Езус справуе святарства міласэрнасці і спачування. Ён мае непасрэдны досвед нашых цяжкасцей, Ён ведае знутры наш чалавечы стан; тое, што Ён бязгрэшны, не з'яўляецца для Яго перашкодай для таго, каб разумець грэшнікаў. Яго хвала – гэта не хвала амбіцый і жадання панаваць, гэта хвала любові да людзей, прыняцця і раздзялення іх слабасцей, адорвання іх ласкай аздараўлення, спадарожнічання ім з бязмежнай пяшчотай падчас іх стамляючай пілігрымкі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас кананізацыйнай св. Імшы, 18.10.2015*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Евангелле паказвае, які суровым Езус можа быць з ганарлівымі і адначасова міласэрным з тымі, хто шкадуе за свае грахі і чыніць добрыя ўчынкі. Яно прадстаўляе вельмі прыгожую парабалу аб прабачэнні, аб чым чалавек у наш час забываецца. Езус прабачае грэшнай жанчыне, якая шкадуе за свае грахі, але адначасова дае надзею ганарлівым, бо і яны могуць навярнуцца і стаць на шлях жыцця ў Божай ласцы. Гэтым самым Езус нагадвае аб першынстве любові. Божая любоў нас збавіла, і мы, святары і кансэкраваныя асобы, павінны яе абвяшчаць людзям, ставіць яе ў цэнтры нашага жыцця.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў межах пастарскай сустрэчы*

### Кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB



*Калі мы з вамі жадаем бараніць Бога, бараніць Езуса і нашы хрысціянскія каштоўнасці, у першую чаргу мы павінны іх пазнаць. Патрэбна пазнаць Таго, хто ўцелавіўся і прыняў муку і смерць на крыжы дзеля нашага збаўлення, Таго, хто ўваскрос, каб мы мелі радасць у жыцці вечным. Мы з вамі ўсе маем адно прыгожае супольнае імя. І гэтае імя – хрысціяне. Корань гэтага імя ад слова Хрыстос. Таму, калі я называю сябе хрысціянінам, я павінен быць вельмі моцна злучаны з Хрыстом.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай на заканчэнне Юбілейнага года св. Тэрэзы ад Езуса*




◆ Папа Францішак кананізаваў чатырох бласлаўлёных: кс. Вінцэнта Гросі з Італіі, с. Марыю ад Беззаганнага Зачацця з Іспаніі, а таксама Зэлію і Людвіка Марцін з Францыі – бацькоў св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Літургію канцэлебравалі кардыналы і біскупы, якія ўдзельнічалі ў XIV Звычайнай агульнай сесіі Сінода Біскупаў. У гамiліі Святы Айцец заўважыў, што Езус запрашае сваіх вучняў пайсці за Ім "шляхам любові і служэння, адкідваючы сусветную спакусу жадання займаць першае месца і загадваць іншым". "Той, хто служыць іншым і сапраўды не мае аўтарытэту, дапаўняе ў Касцёле сапраўдную ўладу", – казаў папа Францішак.

◆ Скончыўся Юбілейны год св. Тэрэзы, які святкаваўся ў Іспаніі з нагоды 500-годдзя са дня нараджэння св. Тэрэзы Авільскай. Імшы, малітоўныя чуванні і канферэнцыі былі арганізаваны ў катэдрах і парафіях. Урачыстую св. Імшу на заканчэнне Года св. Тэрэзы цэлебраваў кард. Рыкарда Бласкес, а канцэлебравала мноства біскупаў і святароў. Старшыня епіскапата дзякаваў у гамiліі за ўсе ласкі, якія вернікі атрымлівалі на працягу Юбілейнага года. Пасля Эўхарыстыі вуліцамі Авіля прайшла працэсія з фігурай гэтай святой.

◆ Больш за тры гады штотыднёва маскоўскія католікі моляцца ля Крамля з фігурай Маці Божай Фацімскай. Малітоўная група, якая складаецца з некалькіх чалавек, адгаворвае дзве часткі Ружанца (Балесную і Хвалебную), абыходзіць сцены Крамля і выходзіць на Чырвоную плошчу. Часам да вернікаў далучаюцца святары. "Гэта не эпатаж і не мітынг, – адзначае адна з удзельніц малітвы, – гэта наша маленькая ахвяра, якую мы хочам прынесці за мір ва Украіне, за навяртанне Расіі, каб людзі адвярнуліся ад ідалаў і звярнуліся да рэальнага шчасця, якім з'яўляецца Бог".

◆ Каля 350 калумбійскіх святароў прынялі ўдзел у акцыі "Confess-a-thon". На працягу двух дзён яны спавядалі і проста размаўлялі з людзьмі ў адным з найбуйнейшых сталічных гандлёвых цэнтраў – "Gran Estación Mall". І святары, і вернікі, якія сустрэліся са сваімі пастырамі ў гэтыя дні, прызнаюцца, што гэта выдатная магчымасць наблізіцца да Бога і наблізіць Бога да людзей. Бо Хрыстос і сёння падарожнічае па нашых вуліцах, у тым ліку, і па гандлёвых цэнтрах.

◆ У Варшаўскай архідыяцэзіі стартавала кампанія, якая заахвочвае сем'і прымаць у сваіх дамах удзельнікаў Сусветных дзён моладзі. Арганізатары рассейваюць любыя асцярогі наконт бяспекі, умоў, неабходных для таго, каб магчы прыняць у сябе дома маладых людзей з-за мяжы, а таксама таго, як з імі камунікаваць. Акцыі спадарожнічае 3,5-хвілінны фільм у інтэрнэце, рэкламныя шчыты на вуліцах Варшавы, а таксама спецыяльная інтэрнэт-старонка przyjmij.pl. Зацікаўленыя могуць знайсці там усю інфармацыю, што датычыцца таго, як прыняць у сваім доме маладых людзей, а таксама дзе і як паведаміць аб сваім жаданні прыняць іх.

ekai.pl; credo-ua.org; niedziela.pl.

**Ангеліна Пакачайла**

# Свята сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі адбылося ў Лідзе

● працяг са с. 1

Сустрэчу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які і быў яе ініцыятарам. Прысутнічаў таксама біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка, старшыня Рады па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

Удзельнікі сустрэчы маліліся за Святога Айца Францішка, за Сінод Біскупаў на тэму сям'і, які праходзіць зараз у Ватыкане, і за самі сужэнствы і сем'і.

Лідская парафія была абрана месцам правядзення гэтай сустрэчы невыпадкова. Апекуны парафіі – Святая Сям'я – вялікі і годны ўзор для перайманя для маладой парафіяльнай супольнасці. У парафіі актыўна праводзіцца душпастарства сем'яў, якое ўключае сотні сужэнцаў, што знаходзяць час на фармацыйныя сустрэчы і адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту. Пробашч парафіі кс. Юзаф Ганьчыц заўсёды гасцінна прымае ў парафіяльнай святыні, ствараючы сапраўдную сямейную атмасферу, каб кожны мог адчуваць сябе як дома.

У гэты дзень кожны ўдзельнік сустрэчы мог адчуць шмат радасці і духоўных перажыванняў. Супольная малітва цэлых сем'яў, прыгожы спеў, цёплыя размовы – адным словам, любоў злучала прысутных.

## МАЛІТВА, СВЯТОЕ ПІСАННЕ І ДЫЯЛОГ – АСНОВА СЯМ'І

Узрушальным момантам быў час сведчанняў, калі сужэнцы дзяліліся ў асноўным досведам радасці жыцця ў сакраментальным саюзе, згодным з вучэннем Касцёла, і тым, як яны рэалізуюць сваё пакліканне як бацька і маці.

Падчас сведчанняў сужэнцы моцна акцэнтавалі патрэбу практыкавання супольнай малітвы ў сем'ях – фундаменту кожнай сям'і. Таксама гаварылася пра часты зварот да чытання Святога Пісання, якое дапамагае ў вырашэнні сужэнскіх крызісаў, і пра правядзенне дыялогу, які заўсёды з'яўляецца асновай здаровых адносін і дапамогай у вырашэнні розных пытанняў, звязаных з выхаваннем дзяцей і сужэнскімі адносінамі.

Удзельнікі сустрэліся таксама за супольным абедам, прыгатаваным у адным катле. Быў час на абмен досведам і на знаёмства.

## ДЗЕЦІ І МОЛАДЗЬ – РАДАСЦЬ І НАДЗЕЯ

"Шчасце ў дзецях – найлепшы дар у свеце!". Гэтыя словы шмат разоў закраналі думкі. На кожнай сустрэчы ёсць свая праграма, але немагчыма ўсё запланаваць загадзя. Аднак у тым і сутнасць: "Мы робім тое, што залежыць ад нас, а ўсё астатняе – Божая справа!".

"Вясёлка талентаў", якую падрыхтавалі валанцёры парафіі Святой Сям'і, дапамагла дзецям стварыць прыгожыя паштоўкі і кветкі для сваіх мацi. Шмат забаў было на пляцоўцы "Спартыўны каламбур", дзе нават біскуп Аляксандр Кашкевіч танчыў з дзецьмі "маленькіх качанят". Былі і сюрпрызы: падарожжа "цягніком усмешак", размова па "Радыё Хвала – Бяспечнае дзяцінства" і іншае. Дзеці, нягледзячы на розны ўзрост, ахвотна далучаліся да забаў, якія ім прапаноўвалі салезіянскія аніматары разам з с. Ірынай Барцэвіч FMA і а. Эдуардам Пяцельчыцам CSsR.

Урачыстую святую Імшу ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх адзначыў, што ў свеце шмат сем'яў, якія, нягледзячы на розныя цяжкасці, старающа верна рэалізаваць Божую задуму ва ўласным сужэнскім і сямейным жыцці. "Мы дзякуем Богу за ўсе шчаслівыя і трывалыя сужэнствы, якія з'яўляюцца відавочным доказам таго, што Бог не патрабуе ад людзей нічога, што перавышае іх магчымасці", – сказаў гродзенскі ардынарый.

Па словах іерарха, існуюць сужэнствы, якія перажываюць розныя крызісы, і такія, якія пасля многіх гадоў распадаюцца. Касцёл усведамляе абавязак нясення дапамогі такім сем'ям. Біскуп заахвоціў падтрымліваць малітвамі ўсе сем'і, якія распаліся і перажываюць цяжкасці, каб дзякуючы Божай ласцы і дапамозе бліжніх яны знайшлі супакой сэрца, сэнс і радасць жыцця.

Гамілію прамовіў біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка, які быў удзельнікам сёлетняй Сусветнай сустрэчы сем'яў у Філадэльфіі (ЗША). Іерарх падзяліўся ўражаннямі з гэтай сустрэчы і перадаў словы папы Францішка, скіраваныя падчас яе.

На "сямейную" сустрэчу прыехала шмат не толькі сужэнскіх пар, але і іх "будучыні" – дзяцей. Вядома, дзеці не могуць доўга быць на адным месцы і траціць шмат часу на адну справу, іх перапаўняе энергія жыцця.



Падчас св. Імшы іерарх удзяліў кожнай сям'і пастарскае блаславеннe



Пастыр Гродзенскай дыяцэзіі танчыць разам з маленькімі ўдзельнікамі сустрэчы

## ВЫХАВАННЕ ДЗЯЦЕЙ І ЕВАНГЕЛІЗАЦЫЯ – ВАЖНЫЯ ЗАДАЧЫ СУЖЭНЦАЎ

"Вобраз Святой Сям'і з'яўляецца для нас святлом, вызначаючым правільную дарогу на бурлівым моры сучаснага свету, каб трапна дапамагаць сем'ям у іх місіі і пакліканні", – звярнуў увагу біскуп Дзям'янка.

Па словах іерарха, сужэнцы "павінны ўдзельнічаць у любові закаханых у Хрыста, клапаціцца аб дзецях, перадаючы ім спакойна і з даверам сэнс жыцця, сілу веры, паказваючы ім узнёслыя мэты і падтрымліваючы іх асабліва тады, калі яны слабыя і нясталыя".

Біскуп нагадаў, што сям'я – гэта "месца фармацыі чалавечнасці і асяродзе для евангелізацыі". "У сучасным свеце ёсць вялікая неабходнасць у сталай веры бацькоў, сведчанні сужэнцаў і цэлых сем'яў, каб Евангелле аб сям'і было перададзена з радасцю і любоўю тым, каго асабліва закрануў крызіс веры, хто знаходзіцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, – сказаў пінскі ардынарый. – Многія сем'і сёння змагаюцца з праблемай нявер'я сваіх дзяцей, заўважны рост разводаў і нефармальных саюзаў. Таму з яшчэ большым перакананнем трэба абвяшчаць Евангелле аб сям'і, дадзенае Богам Айцом праз Езуса Хрыста".



Падчас працэсіі з дарамі

Біскуп дадаў, што "таямніцу любові ў сям'і можна зразумець, угледзваючыся ў Марыю і Юзафа, якія схіляюцца над малым Езусам". "Кожная сям'я мае штосьці з Назарэтанскай Сям'і. Кожная сям'я мае задачу практыкавацца ў такой ахвярнай любові, – заўважыў іерарх. – Там, дзе ёсць любоў, не існуе адзінота. Трэба знайсці час на тое, каб затрымацца, паразмаўляць, шукаць месцаў і сітуацый, якія б спрыялі пабудове трывалых сувязяў".

Падчас Імшы пары аднавілі свае сужэнскія абяцанні, прыгадаўшы дзень заключэння сакраментальнага шлюбу. Адказваючы на пытанні, яны мелі магчымасць нанова адчуць, што пакліканы да любові і стварэння супольнасці жыцця. Затым яны падыходзілі цэлымі сем'ямі да біскупаў, якія святарскай стулай звязвалі ім рукі, як у дзень заключэння сужэнства, і ўдзялялі кожнай сям'і пастарскае блаславеннe. Гэта можна назваць найпрыгажэйшай хвілінай усёй сустрэчы: слёзы радасці і надзеі былі заўважныя ў вачах сужэнцаў, якія прыгадвалі дзень свайго шлюбу і сакраментальнае "так", што пацвярджала жаданне быць да канца жыцця з гэтым чалавекам у любові, вернасці і сужэнскай павазе.

**Кс. Юрый Марціновіч**
*фота catholic.by*

**Сустрэча завяршылася актам аддання сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі Маці Божай. Варта адзначыць і тое, што сустрэчы спрыяла ў гэты дзень надвор'е. Сем'і вярнуліся дадому з мноствам пазітыўных уражанняў, умацаваныя пастарскім блаславеннем, з аднаўленымі сужэнскімі абяцаннямі, каб быць святлом і прыкладам для іншых людзей, далей сведчыць аб Хрысце, быць адкрытымі на новае жыццё, выхоўваць новае пакаленне ў веры, а найперш, каб любіць адно аднаго.**

# Гродзенская дыяцэзія адзначыла літургічны ўспамін св. Яна Паўла II



*З асобай св. Яна Паўла II звязана шмат дат: 18 мая – гадавіна нараджэння, 16 кастрычніка – гадавіна абрання на Пятровы Пасад, 2 красавіка – гадавіна смерці. Дата 13 мая – гэта памятная і надзвычайная падзея, калі ў 1981 годзе на наступніка св. Пятра быў учынены замах. 22 кастрычніка – ва ўсім Касцёле ў літургіі ўзгадваюць св. Яна Паўла II. Менавіта на гэты дзень прыпадае гадавіна інаўгурацыі яго Пантыфікату.*

• працяг са с. 1

21 кастрычніка, напярэдадні літургічнага ўспаміну святога, у Астравецкім дэканаце біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу св. Яна Паўла II ў Цэнтральным раённым шпіталі ў Міхалішках. Яна была ўзведзена дзякуючы старанням пробашча кс. Анатоля Захарэўскага і прыхільнасці адміністрацыі шпіталя. У капліцы пастаянна захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант, і кожны пацыент шпіталя можа прыйсці на індывідуальную малітву. Кожную суботу ў капліцы цэлебруецца святая Імша.

Наведваючы шпіталь, біскуп Гродзенскі сустрэўся з медыцынскім персаналам і пацыентамі. Іерарх падзякаваў усім супрацоўнікам службы аховы здароўя за ахвярную і вельмі патрэбную працу сярод людзей, закранутых хваробай і цярпеннем. Усіх пацыентаў шпіталя біскуп заахвоціў ахвяраваць сваю хваробу і цярпенне ў інтэнцыі семʼяў і за навяртанне грэшнікаў.

22 кастрычніка адбылася чарговая знакавая падзея для Гродзенскай дыяцэзіі: у парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі здзейсніў урачыстае ўнясенне рэліквій святога, якія будуць пастаянна захоўвацца ў гэтым касцёле.

Пасля ўнясення рэліквій быў агучаны сертыфікат іх сапраўднасці, падрыхтаваны Мітрапалітам Кракаўскім кардыналам Станіславам Дзівішам, які быў шматгадовым сакратаром св. Яна Паўла II у Ватыкане.

Падчас св. Імшы біскуп Юзаф Станеўскі нагадаў у гаміліі жыццёвы шлях св. Яна Паўла II як нязломнага сведкі Божай любові, Пастыра, які клапаціўся аб лёсе Касцёла і свету, схіляўся над чалавечай нядоляй, ужо на пачатку свайго Пантыфікату заклікаў адчыніць дзверы Хрысту. Гэты заклік Святога Айца, які адчыніў дзверы ўсіх дзяржаў і народаў для Хрыста не страціў сваёй актуальнасці па сённяшні дзень, – адзначыў біскуп Юзаф Станеўскі.

Пасля блаславення настала хвіліна малітвы перад рэліквіямі і магчымасць ушанаваць у іх св. Яна Паўла II. Як сказаў пробашч парафіі кс. Павел Беланос, гэтыя рэліквіі "будуць знакам веры, надзеі і Божай любові".



Бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу св. Яна Паўла II у межах кананічнай візітацыі Астравецкага дэканата



Вернікі парафіяльнай супольнасці ў Макараўцах ушаноўваюць рэліквіі святога

Таксама варта адзначыць, што у Макараўцах адна з вуліц носіць імя Яна Паўла II, а прыбыццё рэліквій у парафію стала магчымым дзякуючы стараннем пробашча кс. Паўла Беланоса.

***Паводле catholic.by***
*фота catholic.by*

# Як размаўляць пра веру з тымі, хто ні ў што не верыць

*Калі я прызнаўся сваёй сяброўцы, што цяпер веру ў Бога, яна паглядзела на мяне так, нібы я з глузду з'ехаў. Я быў адным з тых атэістаў, якія з любой нагоды і пытання, звязаных з хрысціянствам, з пачуццём уласнай годнасці адказваюць 1) цытатай з Ніцшэ, 2) цытатай з Маркса або 3) усё вышэйпералічанае. Мякка кажучы, я быў варожа настроены ў адносінах да рэлігіі. Ісціна не мае патрэбы ў тым, каб яе даказвалі, але варта ведаць, як яе даказаць, калі пачнуць пытацца. Досвед мне паказаў, што думаюць людзі па абодва бакі барыкад, і я магу з упэўненасцю сказаць: многія хрысціяне з такой стараннасцю спрабуюць заваяваць розумы і сэрцы непакораных, што дабіваюцца толькі адваротнага эфекту – людзі пачынаюць іх пазбягаць. У працэсе ўгаворванняў яны забываюць пра некаторыя асноўныя хрысціянскія мудрыя правілы – менавіта тыя, якія так пераканаўча дзейнічаюць на тых, "хто ні ў што не верыць".*

***Вось некалькі прапаноў адносна таго, як распавядаць пра веру тым, хто не верыць.***

## Тое, што вы гаворыце, павінна быць, перш за ўсё, разумным, а не проста эмацыйным

Сярод людзей, якія адмаўляюць усялякую веру, існуе меркаванне, што вера заснавана выключна на эмоцыях і пазбаўлена разумнага кантэнту. У размове з агностыкам або атэістам хрысціяне занадта часта пераходзяць на эмацыйную мову: "Калі я даверыўся Госпаду...", "Бог быў такі добры да мяне..." і г.д.

Нічога няправільнага ў гэтым няма – мы пакліканы да таго, каб распавядаць пра сваю веру. Але для атэістаў і агностыкаў мова веры цалкам чужая, нязручная і раздражняльная. Гэта быццам вам прыйшлося б выслухаць цэлую тыраду пра нейкага сябра вашага сябра, якога вы і ў вочы не бачылі.

Акрамя таго, палагаючыся толькі на эмацыйны доказны бок вашай гутаркі, вы пазбаўляеце свайго суразмоўцу магчымасці даведацца пра глыбокую багатую гісторыю хрысціянскай думкі.

Вучэнне самога Езуса – прыклад выдатнай логікі. Калі мы хочам пераймаць Ягоны стыль, то трэба прымушаць сябе гаварыць не толькі з пераканаsuccнем, але і з разумнымі довадамі.

Памятайце, сама ісціна, можа, і не мае патрэбы ў доказе, але калі пачнуць пытацца, трэба здолець даць разумны адказ. Неабходна "быць у тэме па поўнай" – "падкаваць" сябе па гісторыі і хрысціянскай філасофіі, а таксама гісторыі атэізму, каб і самім яшчэ больш умацавацца ў веры і знайсці агульныя для размоў тэмы з нашымі суразмоўцамі. Гэта несумненна збліжае.

## Шукайце агульную мову ў незямной сферы

Самае дзіўнае, што паводле апытання, праведзенага сярод амерыканцаў, 68% жыхароў краіны, якія не прызнаюць ніякую рэлігію, усё роўна вераць у Бога і хочуць атрымліваць хоць нейкі духоўны вопыт. Нават самыя бескампрамісныя атэісты праявілі ўсвядомленае імкненне да чагосьці звышнатуральнага. Іншымі словамі, яны хочуць не проста ведаць нешта пра Бога, але адчуваць Яго на глыбокім духоўным, незямным узроўні, выходзячы за рамкі матэрыяльнага свету.

Прасцей кажучы, як бы ні стараліся нам у нашай культуры навязаць меркаванне, што ў жыцці рэальна толькі тое, што можна вымераць, назіраць і сканаваць, дзесьці ў падсвядомасці ўсё роўна сядзіць думка: "У любой мове ёсць той іншы бок, на якім знаходзіцца штосьці, што падтрымлівае яго, але не змяшчаецца ў ім... Гэтае штосьці мы і называем Богам".

І нават калі вы будзеце супер пераканаўча распавядаць сваім сябрам атэістам, што супакой, які яны адчуваюць у прыродзе, або прыліў энергіі падчас праслухоўвання музыкі ёсць ні што іншае як канкрэтны вынік жыццядзейнасці канкрэтнага Бога, вам наўрад ці ўдасца пераканаць іх у гэтым, але, па меншай меры, яны зразумеюць, што паміж вамі ёсць хоць нешта агульнае. Мы можам нагадаць сабе аб тым, як шчодра Бог адарыў нас здольнасцю адчуваць усё, што ёсць у гэтым свеце, і дзяліцца гэтымі пачуццямі з іншымі людзьмі, распавядаючы ім пра нашыя асабістыя перажыванні ў адносінах з Богам.

## Не адмаўляйцеся ад цяжкіх пытанняў

"Калі Бог такі добры, чаму ж у свеце столькі зла?", "Калі адзіны шлях да збаўлення – гэта вера ў Хрыста, што будзе з тымі, хто нарадзіўся і вырас у нехрысціянскай сям'і?", "Адкуль мне ведаць, што Бог ёсць, калі я ніяк не магу гэта праверыць дасведчаным шляхам?".

Адказы на падобныя пытанні часта бываюць вырашальнымі для няверуючых (і, па праўдзе сказаць, для многіх вернікаў). І справа не ў тым, што хрысціянства за 2000 гадоў так і не змагло знайсці годных адказаў, проста адказы на цяжкія пытанні часам не вельмі прыгожыя і прыемныя.

Таму, калі вы ў чарговы раз будзеце прагортваць Біблію ў пошуках слоў суцяшэння, не забудзьцеся, што Пісанне ў якасці лекаў можа прапанаваць і горкую пілюлю. Мы, як хрысціяне, абавязаны, асабліва падчас размовы пра веру з няверуючымі, не абыходзіць бокам цяжкія моманты ісціны, а, наадварот, смела казаць пра іх, якім бы цяжкім гэта ні было для нас і нашых суразмоўцаў.

## Лепшае сведчанне – ваша жыццё

Вядома, саступаючы толькі Пісанню, найлепшым сведчаннем пра хрысціянства з'яўляецца жыццё ў радасці, ласцы, пакоры і любові, нягледзячы на цяжкасці і няўдачы. І калі ў маім выпадку пазнаць Бога бліжэй мне дапамаглі разумныя довады, адчуванні, што Бог рэальны, на нейкім незямным касмічным узроўні, а таксама скрупулёзнае капанне ў самых складаных пытаннях веры, то мой першы зварот да Яго адбыўся менавіта дзякуючы таму, што я заўважыў, як Хрыстос дзейнічае ў жыцці іншых вернікаў, і зразумеў, як Ён дзейнічаў у маім, нават калі я яшчэ зусім не хацеў шукаць Яго.

**Мы лёгка хвалюемся, калі не бачым вынікаў нашых намаганняў у адносінах з няверуючымі. Распавёўшы пра веру аднаму з іх, разумееш, колькі яшчэ засталося. Да таго ж, ва ўсіх нас ёсць свае духоўныя сады, за якімі трэба даглядаць, і часу на клопат пра іншых проста не хапае. Але колькасць людзей, якія аддаляюцца ад Бога, узрастае, і гэта павінна па-новаму ўскалыхнуць сэрцы хрысціян для актыўных дзеянняў. Я, хоць і невялікі, але ўсё роўна доказ таго, што вашыя намаганні цалкам могуць завяршыцца поспехам.**

***Віктар Ле Светман***
*Паводле www.hristiane.ru*




OPOKA .org.pl

***Пілігрымка цыганоў у Папы***

***"Я добра ведаю цяжкія ўмовы, у якіх жывуць многія цыганы", – казаў Святы Айцец, прымаючы ў Ватыкане іх сусветную пілігрымку. Папа сустрэўся з імі дакладна ў 50-ю гадавіну візіту бл. Паўла VI у абоз цыганоў у Памезіі недалёка ад Рыма.***

*Францішак узгадаў шматлікія праблемы, якія перажывае іх супольнасць: беспрацоўе, адсутнасць медыцынскай апекі, уцягванне дзяцей і жанчын у гандаль наркотыкамі ці чалавечымі органамі. Адначасова Папа заахвоціў, каб яны не гублялі надзеі на лепшую будучыню і самі яе стваралі. Францішак звярнуў увагу на прысутнасць сярод пілігрымаў б-па Дэпрасада Ганавы з Індыі, які паходзіць з цыганскай сям'і. Выказаў радасць у сувязі з ростам колькасці святарскіх і манаскіх пакліканняў сярод маладых цыганоў.*




***Папа сустрэнецца з 400 прадстаўнікамі рэлігій свету***

***Спецыяльнай міжнароднай канферэнцыяй з удзелам каля 400 дэлегатаў з усяго свету Ватыкан адзначыць 50-ю гадавіну абвяшчэння II Ватыканскім Саборам дэкларацыі "Nostra aetate".***

*Гэты саборавы дакумент аб адносінах Касцёла да нехрысціянскіх рэлігій – самы кароткі і адначасова адзін з найважнейшых – быў абвешчаны 28 кастрычніка 1965 года. Ён вызначыў новыя напрамкі ў адносінах каталіцкага Касцёла з іншымі рэлігіямі.*

*У трохдзённай сустрэчы, арганізаванай супольна Папскай радай па справах міжрэлігійнага дыялогу і Камісіяй па справах рэлігійных кантактаў з іудаізмам, якая дзейнічае на аснове Папскай рады па садзейнічанні хрысціянскаму адзінству, абвясцілі ўдзел 400 прадстаўнікоў розных рэлігій. На плошчы св. Пятра яны будуць удзельнічаць у генеральнай аўдыенцыі, прысвечанай юбілею дэкларацыі, пасля чаго запланавана іх сустрэча з Папам. Таксама адбудуцца панэльныя дыскусіі між іншым на тэму дыялогу паміж рэлігіямі, рэлігійнай свабоды, адносін паміж рэлігіямі, насіллем і мірам, а таксама на тэму выхавання і перадачы каштоўнасцей.*

Catholic.by
Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

***Папа Францішак атрымаў дар ад Прэзідэнта Беларусі***

***Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці асабіста перадаў папу Францішку дар ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі – абраз "Беззаганнае Сэрца Марыі".***

*Гэты абраз выкананы ў старажытнай беларускай тэхніцы работы па дрэве – Сожская скань. Пантыфік высока ацаніў гэты жэст і папрасіў Апостальскага нунцыя перадаць дастойнаму дарыцелю словы шчырай удзячнасці разам з Апостальскім благаслаўленнем усяму беларускаму народу.*

***Кінга Красіцкая***

## Жыхары Гродна ўшанавалі абраз Маці Божай Тройчы Цудоўнай

***Да абраза, які знаходзіцца ў бакавым алтары гродзенскага касцёла Маці Божай Анёльскай пілігрымавалі ў гэты дзень сужэнцы разам са сваімі дзецьмі. Таксама прысутнічала моладзь і члены кола адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.***



Святую Імшу, падчас якой шанавальнікі Маці Божай Тройчы Цудоўнай аднавілі сваё прысвячэнне Панне Марыі, узначаліў а. Антоній Пажэцкі OFMConv. Пробашч парафіі Маці Божай Анёльскай падзякаваў вернікам за прывязанасць да Панны Марыі і пашырэнне Яе культу ў сваіх дамах і сем'ях.

На заканчэнне Імшы былі асвечаны каплічкі Маці Божай Тройчы Цудоўнай, якія будуць наведваць сем'і Гродна і ваколіц. Гэта будзе нагодай для супольнай малітвы ўсёй сям'і і пакладзе пачатак штодзённай супольнай малітве ў сем'ях.

## Блаславёную Цэліну Бажэнцкую і яе дачку Ядзвігу ўзгадалі ў Заневічах

***18 кастрычніка ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата адбылася ўрачыстасць, падчас якой шматлікія прысутныя вернікі маліліся праз заступніцтва блаславёнай Цэліны Бажэнцкай і аб хуткай беатыфікацыі яе дачкі Слугі Божай Ядзвігі.***



Урачыстую святую Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які заахвоціў вернікаў да ўдзячнасці Богу за тое, што дае яскравыя ўзоры для пераймання, якімі з'яўляюцца святыя і блаславёныя нашай зямлі. Таксама падчас набажэнства былі асвечаны выявы, на якіх прадстаўлены маці і дачка Бажэнцкія, і адкрыты памятныя табліцы.

На ўрачыстасць прыбылі ў пілігрымцы і сучасныя сёстры змёртвыхпаўстанкі, духоўныя дочкі блаславёнай Цэліны і Слугі Божай Ядзвігі. Пасля св. Імшы яны наведалі Абрэмшчыну, дзе месціцца пабудаваная ў гонар бл. Цэліны невялікая капліца, у будынак якой укладзены сімвалічны камень з былога маёнтка Бажэнцкіх.

## Сустрэча для дзяўчат адбылася ў Смаргоні

***Мэтай сустрэчы, якую арганізавала супольнасць сясцёр салезіянак, было тое, каб дапамагчы маладой дзяўчыне ў мітусні сённяшняга свету не баяцца выбіраць Божыя вартасці, не баяцца вучыцца ад Божых людзей.***



У гэтым годзе сёстры салезіянкі запланавалі, што кожная трэцяя нядзеля месяца будзе асаблівым часам сустрэчы з дзвюма вялікімі асобамі: Маці Божай і св. Марыяй Дамінікай Мадзарэла. Таму засяродзілі ўвагу не толькі на біблійнай сцэне Звеставання, але і на дзяцінстве св. Марыі Дамінікі. Гэтая жанчына вучыць любіць Бога, жадаючы ўсё больш пазнаваць Яго таямніцу; яшчэ ў дзяцінстве яна пыталася ў свайго бацькі: "А што робіў Бог, пакуль нас не стварыў?", і ўжо тады марыла пра неба.

Прысутныя разам падзякавалі словамі ружанцовай малітвы за жыццё кожнай дзяўчыны, просячы аб дапамозе, каб і далей глядзець на гэтых дзвюх вялікіх святых і вучыцца ў іх давяраць усё Богу.

## Адбылася кананічная візітацыя Астравецкага дэканата

***За час візітацыі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў усе парафіяльныя касцёлы і капліцы дэканата, сустрэўся і паразмаўляў з вернікамі, духавенствам, памаліўся разам з імі і прыглядзеўся да парафіяльнага жыцця ў гэтай частцы дыяцэзіі.***



У межах візітацыі біскуп Аляксандр Кашкевіч сустрэўся з многімі вернікамі, для якіх візіт ардынарыя стаў сапраўдным святам і значнай падзеяй. Гродзенскі ардынарый між іншым сустрэўся ў Астраўцы з медыкамі, міліцыянерамі і настаўнікамі, а таксама асвяціў шпітальную капліцу св. Яна Паўла II у Міхалішках. Кананічная візітацыя завяршылася 25 кастрычніка ўрачыстай святой Імшой у касцёле святых Космы і Дам'яна ў Астраўцы з удзелам духавенства дэканата.

## Пачалася перэгрынацыя мініяцюр духоўных сімвалаў СДМ сярод моладзі Гродна

***Асвячэнне крыжа СДМ і абраза Маці Божай Salus Populi Romani, а таксама ўручэнне іх дэлегацыям моладзі парафій г. Гродна адбылося падчас св. Імшы, якую ўзначаліў каардынатар СДМ у Беларусі кс. Антоній Грэмза.***



Мэтай сустрэчы, у якой прынялі ўдзел маладыя вернікі розных гродзенскіх парафій са сваімі душпастарамі, а таксама моладзь з Нігерыі, стала духоўная і арганізацыйная падрыхтоўка да Сусветных дзён моладзі, якія пройдуць у Кракаве ў 2016 г., а таксама правядзенне перад імі перэгрынацыі мініяцюры крыжа і абраза сярод моладзі кожнай парафіі Гродна.

У межах сустрэчы кс. Антоній прадставіў прысутным прэзентацыю аб тым, як сустракалі сімвалы СДМ у Беларусі, і ролік, у якім моладзь запрашаецца на СДМ у Кракаве.

## На Гродзеншчыне маліліся за супрацоўнікаў службы аховы здароўя

***З нагоды ўспаміну св. Лукі, апекуна медыкаў, св. Імшы ў інтэнцыі медыкаў адбыліся ў Лідзе і Гродне.***



У шпітальнай капліцы Маці Божай з Лурда ў Лідзе святары падчас Эўхарыстыі маліліся аб патрэбных ласках для супрацоўнікаў службы аховы здароўя. У гаміліі кс. Андрэй Лішко нагадаў словы Езуса: "Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў", дадаўшы, што гэта таксама важная місія служэння – служэнне хвораму чалавеку, служэнне самому Хрысту, і гэта важна зразумець у сваёй працы.

У сваю чаргу ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліў набажэнства ў інтэнцыі працаўнікоў медыцынскіх устаноў Гродзеншчыны. Падчас Эўхарыстыі пастыр падкрэсліў важную ролю прадстаўнікоў гэтай прафесіі ў абвяшчэнні Евангелля там, куды святар альбо іншы вернік дайсці не можа.

Пасля святой Імшы кс. бп Аляксандр таксама сустрэўся з прадстаўнікамі гродзенскага Душпастарства службы аховы здароўя імя святых Космы і Дам'яна і пажадаў, каб штодзённую паслугу яны выконвалі з радасцю і каб яна прыносіла добры плён.

## Сакрамант канфірмацыі ў Зарачанцы

***Кандыдаты да канфірмацыі з парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі рыхтаваліся да гэтага дня праз удзел у катэхезе, сакраментальным жыцці Касцёла і праз індывідуальную малітву.***



Біскуп Аляксандр Кашкевіч, які ўдзяліў вернікам сакрамант, заахвоціў маладых людзей, узбагачаных у гэты дзень дарамі Духа Святога, быць адважнымі сведкамі веры ў сваім асяроддзі. У сваю чаргу моладзь паабяцала быць у сучасным свеце сапраўднымі сведкамі Хрыста.

Пробашч парафіі кс. Віктар Мыслюк заахвоціў сваіх парафіян у гэты дзень, прызначаны рашэннем біскупа Гродзенскага Дыяцэзіяльным днём малітвы за сям'ю, каб кожная сям'я знаходзіла час на супольную малітву і перадавала наступным пакаленням галоўныя праўды веры і хрысціянскія традыцыі.

## Рэліквіі бл. Цэліны Бажэнцкай прыбылі ў парафіяльную святыню ў Малой Бераставіцы

***Цяпер вернікі парафіі св. Антонія Падуанскага змогуць маліцца ў парафіяльнай святыні праз заступніцтва блаславёнай.***



Святую Імшу ў парафіі ў Малой Бераставіцы ўзначаліў у гэты дзень дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які заахвоціў вернікаў пашыраць культ блаславёнай і паглыбляць сваё духоўнае жыццё праз знаёмства з яе духоўнай спадчынай.

Супольнасць вернікаў, якая ў гэты дзень атрымала новую заступніцу ў небе, мае вялікую надзею, што культ блаславёнай Цэліны будзе пашырацца не толькі ў Гродзенскай дыяцэзіі, але і ва ўсёй Беларусі.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Колькі існуе частак Ружанца?




*Пытанне чарговага ружанцовага апытання мае ў першую чаргу катэхетычны характар. Рэспандэнты, адказваючы на апытанне, павінны былі прыгадаць, колькі частак мае Ружанец. Вельмі простае пытанне, адказ на якое ведаюць нават дзеці, што рыхтуюцца да Першай св. Камуніі. Ніхто не будзе мець клопатаў з адказам, калі ён сістэматычна бярэ ў рукі ружанец. Рашучая большасць дала правільны адказ – Ружанец мае чатыры часткі.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Вельмі простае апытанне, на якое ўсе павінны ведаць адказ. Папа Ян Павел II 16 кастрычніка 2002 г. дадаў чацвёртую частку Ружанца – Таямніцы святла, заахвочваючы адгаворваць яго кожны дзень. У хрысціянстве Ружанец прайшоў уласны шлях. Самыя старэйшыя запісы, якія датычацца гэтай формы малітвы, паходзяць з часоў першых пустэльнікаў, якія, відаць, мелі звычай адгаворвання ста "Ойча наш" кожны дзень. Каб не памыліцца ў колькасці, шаноўныя мужы вязалі на шнурках вузлы, прывязвалі палачкі ці навязвалі пацеркі. Мне ў гэты момант узгадваюцца словы святога Яна Паўла II: "Ружанец – гэта мая любімая малітва". Ці можам мы тое ж паўтарыць за Папам?*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**2 лістапада 1952 г.** – кс. Людвік Віткоўскі SDB, *проб. Дварэц;*
**9 лістапада 1950 г.** – кс. Часлаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *проб. Цудзенішкі;*
**13 лістапада 1994 г.** – кс. Яцэк Якубчык SAC, *душп. Беняконі.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




***Хвала Хрысту!***

*Вітаю ўсіх чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра ўзор Божай любові, сутнасць талерантнасці і непаўторнасць кожнага чалавека. Даведаемся, на чым грунтуюцца гарманічныя ўзаемаадносіны са светам і што можна згубіць, закрываючыся ад людзей.*

***Наперад з Богам!***


*Ангеліна Пакачайла*

# Дадаць талерантнасці ў букет маральных пачуццяў

***ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Бо ўвесь Закон спаўняецца ў адным: любі бліжняга свайго, як самога сябе" (Гал 5, 14).***

Сёння на Зямлі пражывае больш за 7 мільярдаў чалавек. І сярод людзей няма і пары аднолькавых асоб. Не было і не будзе. Кожны з нас непаўторны і значны; і Бог пароўну размяркоўвае на ўсіх сваю любоў. Варта арыентавацца на гэты ўзор.

***ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб мы змаглі адкрыцца на асабістую сустрэчу і дыялог з усімі, нават з тымі, хто мае адрозныя ад нашых перакананні***

Калі чалавек упэўнены ў сабе і трымаецца сваіх перакананняў, ён не баіцца параўнання з іншымі пунктамі гледжання. Ні адна ідэйная плынь не можа канкураваць з поглядамі, якія ў свядомасці непахісны. Молімся аб гэтай упэўненасці ўнутры кожнага з нас.

***ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: талерантнасць***

Талерантнасць азначае цярпімасць да іншага светапогляду, ладу жыцця, паводзін, звычаяў. Яна не раўназначна абыякавасці або прыняццю іншых поглядаў, а палягае на прадастаўленні іншым права жыць у адпаведнасці з уласнай пазіцыяй. Талерантнасць дарэчная ў адносінах да асаблівасцей розных народаў, рас, рэлігій. Яна таксама актуальна і штодня ў зносінах з бліжнімі: датычыцца праяўлення цярпімасці да звычак і нораваў іншых.

Па тым жа прынцыпе і мы не павінны нікому навязваць свае перакананні. Гарманічныя ўзаемаадносіны са светам грунтуюцца на павазе і разуменні.

***МЭТА МЕСЯЦА: дадаць талерантнасці ў букет маральных пачуццяў***

Усе мы прагнем быць шчаслівымі. Талерантнасць – гэта гатоўнасць прыняць тое, што іншы таксама хоча быць шчаслівым. Калі ў яго ўсё добра, але мне гэта замінае, я змагу прыняць гэта. Змагу быць шчаслівым ад таго, што шчаслівы бліжні. Важна разумець, што ўсе мы роўныя, і адкрывацца на дыялог.

***СПРАВА МЕСЯЦА: зблізіцца з непрыяцелем***

Прынамсі, кожнаму некалі даводзілася адчуваць непрыязныя адносіны да сябе або са свайго боку да некага. Прычына таму – адрозненне ад астатніх. Часта чалавек варожа ставіцца да людзей, якіх ён не разумее. Але гэта не можа быць асновай для таго, каб закрыцца на ўзаемадзеянне. Мажліва, гэта рызыка не спазнаць нечага новага, упусціць шанц стаць шчаслівым у садружнасці з кімсьці?

***ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Зміяні мяне", Аляксей Каратаеў***

У песні выканаўца звяртаецца да Езуса і просіць змяніцца пад сілай Яго любові. "Як я чакаю, каб расправіць крылы, побач быць хачу, чуць голас Твой, ісці за Табой". Каб адчуць сапраўдную Любоў Хрыста, неабходна аднавіцца ўнутры. Сілы на гэта і просіць у Езуса спявак.

***КНІГА МЕСЯЦА: "Аб перайманні Хрыста", Фама Кемпійскі***




Гэты трактат, напісаны, як лічыцца, каля 1427 года, паслужыў падтрымкай для многіх вернікаў і шчытом ад няверы ў вельмі цяжкую для заходняга хрысціянства эпоху Рэфармацыі. Складаецца з 4 кніг і 18 раздзелаў, сярод якіх "Супраць марных меркаванняў чалавечых" і "Аб цярпімасці да чужых недахопаў".

За мінулыя некалькі стагоддзяў была самым тыражыруемым (пасля Біблії) тэалагічным выданнем. Перакладзена больш чым на 90 моў. Перавыдавалася за мяжой звыш пяці тысяч разоў.

***АСОБА МЕСЯЦА: святы Леанард***

Нарадзіўся Леанард 20 снежня 1676 года ў невялікім прыбярэжным паселішчы Порта-Маўрыцыа (Італія) у сям'і рыбака. Атрымаў добрае рэлігійнае выхаванне. У дзяцінстве часта збіраў пры капліцы сваіх сяброў для супольнай малітвы.

Вучыўся ў Рыме ў вядомым "Калегіум раманум". У 1697 годзе ўступіў у рэформеннае адгалінаванне ордэна францысканцаў. У 1703 годзе атрымаў святарскае пасвячэнне.

Марыў паехаць з місіяй у Кітай, але планы перакрэсліла пагаршэнне стану здароўя. Пасля цяжкай хваробы цалкам прысвяціў сябе прапаведаванню. На працягу 40 гадоў працаваў рэкалекцыяністам і прапаведнікам у розных парафіях. Быў нястомным народным місіянерам, вядомым як "Апостал Італіі". Звяртаўся да людзей з вялікай верай праз простую мову. Дзякуючы гэтаму, сярод слухачоў часта здараліся шматлікія навяртанні. Асабліва распаўсюджваў набажэнства да Маці Божай і Мукі Пана. Стаў ініцыятарам адпраўлення Крыжовага шляху, які вельмі хутка укараніўся. Заснаваў шмат рэлігійных брацтваў. Напісаў некалькі кніг на тэму маральнасці.

Змучаны працай пры амбоне і ў канфесіянале, памёр 26 лістапада 1751 года. Беатыфікаваны папам Піем VI у 1791 годзе, кананізаваны ў 1867 годзе папам Піем IX. Лічыцца заступнікам рэкалекцыяністаў.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў лістападзе?***

*Усе святыя (1 лістапада), св. Лізавета (5 лістапада), св. Эрнэст (7 лістапада), св. Андрэй (10 лістапада), св. Крысціна (12 лістапада), св. Альберт (15 лістапада), св. Саламея (19 лістапада), св. Рафал (20 лістапада), св. Кацярына (25 лістапада), св. Леанард (26 лістапада), св. Стэфан (28 лістапада).*

*Усе заўвагі, пажаданні і конкурсныя лісты дасылаць на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі*

*pokachailo.lina@gmail.com.*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# Адбылася сустрэча членаў ружанцовага малітоўнага руху Гродзенскай дыяцэзіі

24 кастрычніка ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы адбылася сустрэча членаў Колаў Жывога Ружанца. Сустрэча была арганізавана кс. Міхалам Ластоўскім, дыяцэзіяльным мадэратарам супольнасці Жывога Ружанца і кусташам санктуарыя ў Капцёўцы. У гэты дзень асаблівае месца было адведзена ружанцовай малітве, якая прамаўлялася перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Удзельнікі сустрэчы маліліся ў інтэнцыі сем'яў дыяцэзіі, просячы, каб кожная сям'я была хатнім Касцёлам і выхоўвала ў веры наступныя пакаленні.

















## Как католику вести себя у постели умирающего человека?

*Разумеется, нельзя дать «универсальный» рецепт: каждая ситуация индивидуальна. Если есть возможность пригласить священника, то он преподаст умирающему последние таинства.*

*Через благодать таинства Елеопомазания больной получает силу для более тесного единения со Страстями Христа. Страдание как последствие первородного греха наделяется новым смыслом: оно становится участием в Христовом деле спасения.*

*Не случайно это Таинство, хотя оно преподается не только на смертном одре, называют «таинством отходящих». Оно наделяет умирающих особой крепостью и стойкостью для последней борьбы перед переходом в Дом Отца.*

*Наряду с Елеопомазанием умирающему преподается «последнее напутствие» – Евхаристия. Принимаемое в момент перехода к Отцу, Причащение Тела и Крови Христа имеет особое значение.*

*Во всех этих обрядах католик-мирянин, находясь у постели умирающего, может и призван принимать участие.*

*Во всех без исключения случаях у постели умирающего незаменима молитва. Эта молитва в последние моменты должна быть особенно усердной – ведь, как предупреждает апостол Петр в своем послании, «противник ваш дьявол ходит, как рыкающий лев, ища, кого поглотить».*

*Перед смертью человек может испытывать сильные искушения, поскольку, по утверждению Тридентского собора, дьявол «старается отдалить от упования на Божественное милосердие».*

*Если умирающий находится в сознании и в соответствующем расположении, то лучше всего вместе с ним произнести молитву «Отче наш», которая всегда приносит обильные плоды, и «Радуйся, Мария» – эта молитва особенно «показана» «в час смерти нашей», как гласят ее слова, – а также славословие.*

*Рекомендуется также молиться Венчиком Божественному милосердию. Через святую Фаустину Ковальскую Господь призывал особенно молиться им у постели умирающих.*

***Прывітанне, Маленькі Сябар! З пакалення ў пакаленне нашыя продкі распавядалі адзін аднаму прыпавесці, якія неслі ў сабе якое-небудзь павучанне. Шмат гісторый дайшло і да сённяшніх дзён. Адны з іх здольны нас натхняць, другія выклікаюць усмешку, трэція ж падштурхоўваюць над нечым задумацца. Усе яны пранікаюць у сэрцы падобна насенню, якое ў пэўны час прарасце і прынясе плады.***



*Прапануем Табе, наш Маленькі Сябар, скарыстацца са шматвекавога вопыту і напоўніцца чароўнай сілай продкаў. Рэдакцыя пачынае публікацыю цыкла хрысціянскіх прыпавесцей. Разам з бацькамі і сябрамі Ты можаш шукаць у іх сэнс. Толькі на першы погляд тлумачэнне ўяўляецца лёгкім і простым. Насамрэч разуменне гісторый можа атрымацца неадназначным: часта адно тлумачэнне дапаўняе другое, а часам яны нават супярэчаць адно аднаму.*



# Анёлы ў дапамогу

*Захацелася аднаму чалавеку прыняць удзел у будаўніцтве святыні, але грошай вялікіх у яго не было. Таму ён адправіўся ў горы, выламаў там гранітную пліту, абчасаў яе, адпаліраваў і вырашыў аднесці яе ў дар. Пачаў шукаць насільшчыкаў, але ніхто не згаджаўся такі велізарны камень да святыні даставіць танней, чым за пяць манет. А ў чалавека такіх грошай не было.*

*Раптам падыходзяць да яго чатыры мужычкі – маленькія, кволыя – і кажуць:*

*– Мы данясем твой камень за манету, толькі ты падмагчы нам павінен. Мы гэты камень табе на спіну ўзвалім, а самі будзем з чатырох бакоў падтрымліваць.*

*– Ды мяне гэтая пліта тут жа раздавіць, а вы вунь худыя якія – таксама не ўтрымаеце, – адказаў чалавек.*

*– Сам вырашай. Але падумай, для чаго ты хочаш зрабіць падарунак храму: для Бога пастарацца ці перад людзьмі пакрасавацца?*

*Падумаў чалавек і кажа:*

*– Для Бога хачу пастарацца.*

*Памаліўся і падставіў сваю спіну. Узвалілі мужычкі пліту яму на спіну, а яна чамусьці апынулася лягчэй лёгкага. Хутка дабраліся яны да святыні. Развярнуўся чалавек, каб з мужычкамі разлічыцца, а іх і след прастыў.*

***Хто дапамог чалавеку? Чаму яму стала лёгка несці пліту? Што чалавек зрабіў перад тым, як узваліў на спіну камень? Якіх учынкаў чакае ад нас Бог?***

*Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, сіл і стойкасці ў працы, апекі міласэрнага Бога і св. Заступніка, дароў Святога Духа, добрых людзей побач. Дзякуем за прыклад веры і набожнасці.

*Вернікі з в. Вінцукі і ваколіц*

Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку ў асаблівы дзень – Дзень імянін – жадаем шчасця, што плыве з Божай абранасці, шчодрых Божых ласкаў, даверу і надзеі ў Пану. Жадаем Вам несці Добрую Навіну, пашыраць радасць, надзею і любоў, быць знакам прысутнасці любячага Пана сярод Божага люду. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі. Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на сваім шляху, дораць зычлівасць і дабрыню, а ўсемагутны Бог няхай спасылае свае дары.

*Вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, усіх Божых ласкаў на кожны дзень, радасці, нястомных сіл для служэння Пану, а таксама ўсіх дароў Святога Духа і сталай апекі св. Заступніка. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дудаў*

Паважанаму Ксяндзу Леанарду Станкоўскаму з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай любові і міласэрнасці. Няхай усемагутны Пан падтрымлівае Вас на кожным шляху і шчодра адорвае сваімі ласкамі. Няхай Маці Божая нястомна чувае над Вамі і ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі. Усяго Вам найлепшага! Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Солаў*

Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, Божай дапамогі і ажыццяўлення душпастарскіх планаў. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі і ўмацоўвае ў выкананні нялёгкага святарскага служэння. Няхай св. Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым алтаром. Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом на кожны дзень Вашага святарскага служэння. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Яго Маці прытуляе Вас да свайго сэрца. Дзякуем Вам за духоўную апеку, клопат аб нашай святыні і ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі, за навуку, шчырую малітву і цярплівасць.

*Вернікі з капліцы Сураж*

Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчасця, добрага настрою, сіл і стойкасці ў душпастарскай працы, добрых людзей навокал, а таксама здзяйснення мар і рэалізацыі ўсіх планаў. Няхай добры Бог адорвае Вас сваім блаславеннем, а св. Заступнік апекуецца ў кожную хвіліну.

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліпнішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мар'яну Хамені з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас моцным здароўем, кожны дзень няхай будзе напоўнены Хрыстовым блаславеннем, святлом Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Маці. Няхай Вас абыходзяць няшчасці, а радасць і супакой напаўняюць кожны Ваш дзень. Аддзяч Вам, Божа за апеку над намі, за навуку і ахвярнасць святарскай працы.

*З малітвай парафіяне з Шылавічаў*

Паважанаму Айцу Вітольду Пяцельчыцу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх дароў ад міласэрнага Пана. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, сілы не слабеюць, у душы жыве супакой і шчасце, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Шчучына*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Чургану ў Дзень імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў моцнага здароўя, штодзённай радасці, поспехаў у душпастарскай працы, сіл і стойкасці ў выкананні паслугі, моцы для супрацьстаяння злу, а таксама ўсіх дароў Духа Святога на кожны дзень. Няхай Ваш св. Заступнік нястомна Вамі апекуецца і вядзе па найпрыгажэйшай дарозе да Пана.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юрацішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды Імянін шчыра жадаем Божага блаславення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Вашае здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай. Няхай планы рэалізуюцца, а навокал заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*III Ордэн св. Францішка, Апостальства "Маргарытка", колы Жывога Ружанца і парафіяльны хор з пар. Тэалін*

Шаноўным Спадарыням Генавефе Выдры, Генавефе Крышаловіч і Генавефе Гедроіч з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, штодзённай радасці, душэўнага супакою, поспехаў у дасягненні пастаўленых мэт, а таксама шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці.

*III Ордэн св. Францішка, Апостальства "Маргарытка", колы Жывога Ружанца і парафіяльны хор з пар. Тэалін*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пытэлю з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў і 25-годдзя працы ў нашай парафіі ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць добрыя і зычлівыя людзі, гатовыя заўсёды прыйсці на дапамогу, Дух Святы няхай адорвае Вас сваімі дарамі, а Маці Божая апекуецца Вамі штодзённа.

*З удзячнасцю сям'я Рушніцкіх*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пытэлю з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў і 25-годдзя працы ў нашай парафіі перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божым блаславеннем і напоўнены Яго шчодрымі дарамі. Няхай вера, надзея і любоў заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Няхай рэалізуюцца ўсе Вашы планы і ў жыцці будзе як мага больш цудоўных хвілін. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. Васілішкі*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды Імянін шчыра жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны наступны дзень Вашага жыцця будзе лепшым, чым папярэдні. Няхай у сэрцы заўсёды жывуць вера, любоў і надзея, з твару не зыходзіць усмешка, а побач будуць людзі, гатовыя дапамагчы ў складаную хвіліну. Жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму і поспехаў у святарскай паслузе. Шчасці Божа!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Радуні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Жадаем добрага здароўя, Божага блаславення, радасных хвілін у жыцці, дароў Святога Духа, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх справах, а таксама апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Ваш св. Заступнік засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў розных сітуацыях. Мы ўдзячны Вам, Ксёндз Пробашч, за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, добрае і чулае сэрца, а таксама за добры настрой.

*Касцёльны камітэт і вернікі з пар. Геранёны*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6399; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная